**Аркадзь Куляшоў**
**Мікола Яцкоў**

# Птушка залатая

***Песні***






**Брылі 2009**



**Аркадзь Аляксандравіч Куляшоў** нарадзіўся 6 лютага 1914 г. ў в. Самацэвічы Касцюковіцкага раёна Магілёўскай вобласці ў сям'і настаўнікаў. Першы верш апублікаваў у 1926 г. у клімавіцкай акруговай ґазеце «Наш працаўнік». Вучыўся ў Мсціслаўскім педтэхнікуме, на літаратурным факультэце Беларускага вышэйшага педагагічнага інстытута. Уваходзіў у Беларускую асацыяцыю пралетарскіх пісьменнікаў. Працаваў у рэдакцыі газеты «Чырвоная змена», на Беларускім радыё, літкансультантам пры Саюзе пісьменнікаў БССР. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Пасля вайны быў рэдактарам газеты «Літаратура і мастацтва», галоўным рэдактарам кінастудыі «Беларусьфільм». Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1946, 1949), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Янкі Купалы (1970). Народны паэт БССР (1968). Заслужаны работнік культуры Украінскай ССР (1973). Узнагароджаны двума ордэнамі Леніна, ордэнам Чырвонага сцяга, двума ордэнамі Працоўнага Чырвонага Сцяга. Памёр 4 лютага 1978 г.



**Мікалай Адамавіч Яцкоў** нарадзіўся 22 мая 1959 г. ў Магілёве. Скончыў Магілёўскае культасветвучылішча імя Н.К.Крупскай, а потым Мінскі інстытут культуры. Служыў у войску. З 1981 года працуе дырэктарам Брылеўскага сельскага Дома культуры Магілёўскага раёна. Член Саюза беларускіх пісьменнікаў. Актыўна выступае як кампазітар-песеннік. Напісаў больш за 900 песен на вершы беларускіх паэтаў. Аўтар песенных зборнікаў "Гронка бэзу" (на вершы Тамаша Ляшонка), "Знічка" (на вершы Івана Карэнды) і інш. Аўтар музыкі афіцыйна зацверджанага "Гімна Магілёва".



# Мікола Яцкоў

## Аркадзю Куляшову.

Я ішоў па жыцці і дайшоў
Да цябе, мой зямляк Куляшоў,
Да цябе, непаўторны Аркадзе –
Каб у восеньскім сцішаным садзе
Пераўяслам мелодый крынічных
Падхапіць непагасную знічку
І адчуць глыбіню тваіх слоў...

Я ішоў,
Я дайшоў,
Я знайшоў.

16 сакавіка 2004 г.

# Магілёўская хмарка

Словы Аркадзя Куляшова

Музыка Міколы Яцкова

♩ = 120

Dm

У воб-ласць Ар лоў-ску-ю хмар-ка плы-ла, па-

4 B C

чаў-шы свой шлях з Ма-гі - лёў скай, у дзень на-ра-джэн-ня хма-

7 F

рын - ка бы-ла бя - лют - ка - ю па - рай дняп-роў-скай, рас-

10 B Gm

ла я - на хут - ка і ў пер-шы па-лёт збі - ра - ла-ся ўве - ча-ры

13 C

дба - ла і лёг - ку - ю па - ру з а - зё - раў, ба-лот да

16 Gm A7 Dm C

шля-ху свай-го да-лу - ча-ла. І лю - дзі ўсмі - ха-юц-ца хмар-цы сва-

20 B D Gm A7 Dm

ёй, і ўдзяч-ны у - след ёй кры - чу я: "Рас-

26 B C F B Gm

ці, ма - гі - лёў - ская - я хмар - ка, з зям - лё - ю тры-

31 C 1. F A7 2. Coda F

ма-ю-чы су-вязь жы - ву - ю. У // ву - ю.

**У вобласць Арлоўскую хмарка плыла,**
**Пачаўшы свой шлях з Магілёўскай.**
**У дзень нараджэння хмарынка была**
**Бялюткаю парай дняпроўскай.**

**Расла яна хутка і ў першы палёт**
**Збіралася ўвечары дбала,**
**І лёгкую пару з азёраў, балот**
**Да шляху свайго далучала.**

**П р ы п е ў :  І людзі ўсміхаюцца хмарцы сваёй,**
**І ўдзячны услед ёй крычу я:**
**-- Расці, магілёўская хмарка,**
**З зямлёю трымаючы сувязь жывую!**

**У вобласць Арлоўскую хмарка плыла,**
**Спрабуючы першыя сілы,**
**Уласным дыханнем у рух прывяла**
**Ужо ветраковыя крылы.**

**Нямала яна для тутэйшых людзей**
**Зрабіла карыснай работы,**
**Напрыклад, пад Крычавам стомленых жней**
**Схавала ў свой цень ад спякоты.**

**П р ы п е ў :  І людзі ўсміхаюцца хмарцы сваёй,**
**І ўдзячны услед ёй крычу я:**
**-- Расці, магілёўская хмарка,**
**З зямлёю трымаючы сувязь жывую!**



Птушка залатая

6 *Аркадзь Куляшоў*
*Мікола Яцкоў*

# Песня лістаносца

Словы Аркадзя Куляшова

Музыка Міколы Яцкова

♩ = 76

Am Dm E7

Да-спя - ва - е ма лі-на у зя - лё-ным сад- ку, хо-дзіць

4 Dm G C A7

крас - на дзяў - чы - на ды ад - на па цянь - ку. Ве - ся -

6 Dm G C Am

лей - шых гу - ля - нак ўсё ча - ка - е даў - но, заў - тра

8 B E7 1. Dm E7 Am

ў са - мень - кі ра - нак па - сту - чу - ся ў ак - но. Па - ві- //

10 2. Dm E7 Am

// -но - сіў ліс - ты.



**Даспявае маліна**
**У зялёным садку;**
**Ходзіць красна дзяўчына**
**Ды адна па цяньку.**

**Весялейшых гулянак**
**Ўсё чакае даўно...**
**Заўтра ў саменькі ранак**
**Пастучуся ў акно.**

**Павітацца з смуглянкай**
**Смелых слоў не знайду;**
**Ліст аддам, бразну клямкай,**
**За вароты пайду.**

**Вось прыходжу другі раз,**
**Ліст нясмела нясу;**
**Усміхаешся шчыра,**
**Заплятаеш касу.**

**Трэцім разам чакала**
**Ціхіх крокаў маіх;**
**За каліткай дагнала,**
**Цалавала пры ўсіх.**

**Ёсць за садам дарога –**
**Не адна ходзіш ты,**
**А з хлапцом, ад якога**
**Я прыносіў лісты.**



*Птушка залатая*

8 *Аркадзь Куляшоў*
*Мікола Яцкоў*

# Птушка залатая

Словы Аркадзя Куляшова

Музыка Міколы Яцкова

♩ = 122

Am

Ад - шу - ме - ла ле - та ка - ла - са - мі,

3 Dm G

ў пап-ла-вах зя-лё-ных ад-цві - ло, жу-ра-вы на поў-дзень пад кры-

6 C A7 Dm

ла - мі па-няс - лі ліп- нё - ва-е ся - ло. Во - сень, во - сень,

10 G C Am

птуш-ка за - ла - та - я, пры - гаст- вом і ты ча - ру - еш нас, па-гля-

13 Dm G C Dm E7

дзі, за ха - тай да - га - ра - е на ліс - тах кру- шын бар-во-вы

16 Am Dm G C

час, па-гля - дзі, за ха - тай да - га - ра - е на ліс-

19 Dm E7 Am

тах кру - шын бар - во - вы час.



**Адшумела лета каласамі,**
**Ў паплавах зялёных адцвіло;**
**Журавы на поўдзень пад крыламі**
**Паняслі ліпнёвае сяло.**

**П р ы п е ў : Восень, восень!**
**Птушка залатая.**
**Прыгаством і ты чаруеш нас, --**
**Паглядзі, за хатай дагарае**
**На лістах крушын барвовы час;**
**Паглядзі, за хатай дагарае**
**На лістах крушын барвовы час.**

**І цяпер за гаем на майдане,**
**Дзе ў налівах серабрыцца сад,**
**Сустракае сонечнае ранне**
**На траве халодная раса.**

**П р ы п е ў .**

**Адшумела лета каласамі,**
**Ў паплавах зялёных адцвіло;**
**Журавы на поўдзень пад крыламі**
**Паняслі ліпнёвае сяло.**

**П р ы п е ў .**



# Мне сніўся сон...

Словы Аркадзя Куляшова

Музыка Міколы Яцкова

♩ = 84

Am Dm
Мне сніў-ся сон: ты ад-ля-це-ла ў веч-насць і

4 G C F Dm
зор-кай там зра-бі-ла-ся між зор, а я, ду-шы і це-ла су-пя-

7 G C F Dm E7
рэч-насць, жы - ву, не звар'-я - цеў і не па - мёр. Што-

10 Dm G
ве - чар сэр - ца хо - дзіць на спат - кан - ні, на -

12 C A7 Dm F
су-нуў-шы на во-чы ка-пя люш, прыз - на-ца хо ча не-ка-му ў ка-

15 Am Dm E7
хан - ні, ра - ту - ю - чы-ся ад па-кут-ных сцюж. А-//

18 Coda E7 Dm E7 Am
// -ла, я - го ў сва-е ўла-дан-ні не ўзя - ла.



**Мне сніўся сон: ты адляцела ў вечнасць**
**І зоркай там зрабілася між зор.**
**А я, душы і цела супярэчнасць,**
**Жыву – не звар'яцеў і не памёр.**

**Штовечар сэрца ходзіць на спатканні,**
**Насунуўшы на вочы капялюш.**
**Прызнацца хоча некаму ў каханні,**
**Ратуючыся ад пакутных сцюж.**

**Але ні косам, ні сукенцы белай**
**Не аддае сардэчнай цеплыні,**
**А ўсё глядзіць з тугой незразумелай**
**На зорныя халодныя агні.**

**І ўсё яму сустрэч таемных мала,**
**І не хапае для вачэй святла.**
**Чаму, калі зямлю ты пакідала,**
**Яго ў свае ўладанні не ўзяла,**
**Яго ў свае ўладанні не ўзяла?**



# Восеньская песня

Словы Аркадзя Куляшова

Музыка Міколы Яцкова

♩ = 72

Dm G C F Dm E7

Ра-дас-на і сум-на ша-ляс-цяць а-сі-ны, го-ман жоў-та-ліс-ця

4 A7 D Dm G C F

я па-чуў у іх, і ні-ту-юць не-ба стру-ны-па-ву-ці-ны

7 Dm Am Dm E7 Am Dm

ў со-неч-ных пра-мен-нях чыс-тых, за-ла-тых. За-пля-ла-ся пес-ня,

10 E7 Am F Dm G C

за-пля-ла-ся ў ні-цях, аб-ні-маў ру-ка-мі за-ла-ты прас-тор,

13 F G C F

кру-жыц-ца ліс-то-та, кру-жыц-ца, ім-чыц-ца,

15 Dm Am E7 Am

вы-сці-ла-е ў по-лі во-сень-скі у-зор.



**Радасна і сумна шалясцяць асіны –**
**Гоман жоўталісця я пачуў у іх,**
**І нітуюць неба струны-павуціны**
**Ў сонечных праменнях чыстых, залатых.**

**П р ы п е ў :** **Заплялася песня,**
**Заплялася ў ніцях –**
**Абнімаў рукамі залаты прастор...**
**Кружыцца лістота,**
**Кружыцца, імчыцца,**
**Высцілае ў полі восеньскі узор.**

**А халодны вецер**
**Лётае, сваволіць,**
**І шуміць ля рэчкі, і шуміць трысцё.**
**Я ў далёкіх далях бачу радасць, волю.**
**Хоць і гінуць кветкі, але ёсць жыццё.**

**П р ы п е ў .**

**Радасна і сумна шалясцяць асіны,**
**Радасна і сумна шалясцяць дубы.**
**У кляновых лісцях віснуць павуціны,**
**У срабрыстых ніцях жоўтыя сады.**

**П р ы п е ў .**



*Літаратурна-музычнае выданне*

Куляшоў Аркадзь Аляксандравіч
Яцкоў Мікалай Адамавіч

*Птушка залатая*
Песні

*Рэдактар - А.М.Яцкова*
*Нотаграфія - Sibelius 3*

Выдавец і паліграфічнае выкананне




*№ 43*
*2. 02. 2009 г.*
*213107 в.Брылі Магілёўскага раёна, Беларусь*
brylibelarus@gmail.com

